

# ЛОКІС

## РУКАПІС ПРАФЕСАРА ВІТЭМБАХА

## I

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Тэадор,— сказаў прафесар Вітэмбах,— падайце мне, калі ласка, вунь той абкладзены пергаментам сшытак, на другой паліцы над пісьмовым сталом. Не, не гэты, а той маленькі, in octavo. Там усе мае дзённікавыя запісы за 1866 год, прынамсі, тыя, што дачытаць графа Шэмета.

Усе прыціхлі. Прафесар надзеў акуляры і прачытаў наступнае:

ЛОКІС

з літоўскай прыказкай у якасці эпіграфа:

*Miszka su Lokiu*
*Abu du tokiu*[1].

* * *

Калі ў Лондане быў выдадзены першы пераклад Святога пісання на літоўскую мову, я змясціў у кёнігсбергскай *«Навукова-літаратурнай газеце»* артыкул, дзе, аддаўшы належнае намаганням дасведчанага перакладчыка і пачцівым намерам Біблейскага таварыства, я ўсё ж звярнуў увагу на некаторыя дробныя памылкі, а таксама адзначыў, што гэты пераклад мог быць карысны не ўсяму літоўскаму насельніцтву, а толькі яго частцы. І сапраўды, выкарыстаны ў перакладзе дыялект з вялікай цяжкасцю зразумеюць жыхары таго краю, дзе гавораць *па-жамойцку*, ці, як яшчэ кажуць, *па-жмудску*. Я маю на ўвазе Жамойцкае староства.

[1] Мішка з мядзведзем — абодва тое самае *(літ.)*.

Мова гэтага краю стаіць яшчэ бліжэй да санскрыту, чым верхнелітоўская. Гэтая заўвага, нягледзячы на рэзкую крытыку з боку аднаго добра вядомага прафесара Дэрпцкага універсітэта, была з цікавасцю прынята шаноўнымі членамі праўлення Біблейскага таварыства, і яны не вагаючыся даслалі мне пачэсную прапанову рэдагаваць выданне Евангелля паводле Мацвея на жамойцкай мове. На той час я не мог узяцца за шырэйшую працу — пераклад усіх чатырох евангелляў, бо быў заняты даследаваннямі ва ўральскіх мовах. Мне прыйшлося адкласці шлюб з паннай Гертрудай Вебер і выехаць у Коўна, дзе я меўся сабраць усе, якія толькі магчыма, пісьмовыя помнікі на жамойцкай мове, як друкаваныя, гэтак і рукапісныя, не забываючыся, вядома, і пра народныя песні, *дайны*, апавяданні або легенды, *пасакі*, якія забяспечылі б мяне матэрыяламі да жамойцкага слоўніка,— працы, што мусіла папярэднічаць перакладу.

Я меў ліст да маладога графа Міхала Шэмета, бацьку якога, як мяне запэўнілі, некалі належаў вядомы *Catechismus Samogiticus*[1] айца Лявіцкага, такі рэдкі, што яго існаванне нават аспрэчвалася, асабліва згаданым ужо прафесарам з Дэрпта. У графавым кнігазборы, паводле звестак, захоўваўся стары збор дайнаў, а таксама вершаў на старажытнай *прускай* мове. Я напісаў графу Шэмету ліст, дзе вытлумачыў мэту майго візіту, і атрымаў ад яго найласкавейшае запрашэнне правесці ў ягоным замку ў Мядзінцілтасе гэтулькі часу, колькі запатрабуюць мае даследаванні. У канцы ліста ён асцярожна пахваліўся, што гаворыць па-жамойцку не горш за сялян і з прыемнасцю дапамог бы ў маёй працы, якая здаецца яму ўхвальнай і цікавай. Як і некаторыя іншыя найбагацейшыя літоўскія землеўласнікі, ён быў евангеліцкага веравызнання, святаром якога я маю гонар быць. Мяне папярэдзілі, што граф трохі дзівакаваты, але вельмі гасцінны, любіць навукі і зычліва ставіцца да навукоўцаў. І я паехаў у Мядзінцілтас.

Каля замкавага ганка мяне сустрэў графаў аканом. Ён адразу правёў мяне ў пакой, адмыслова для мяне падрыхтаваны.

— Пан граф, на жаль, не можа сёння абедаць з панам прафесарам,— сказаў аканом.— У яго прыступ мігрэні. Калі пан прафесар не хоча есці ў сваім пакоі, ён можа паабедаць з доктарам Фробэрам, лекарам пані графіні. Абед

[1] Жамойцкі катэхізіс *(лац.)*.

пададуць праз гадзіну, гарнітур не абавязковы. Калі пану прафесару што-кольвек спатрэбіцца, хай ён пазвоніць у гэты званочак.

Ён нізка пакланіўся і адышоў.

Пакой быў прасторны, багата абсталяваны, аздоблены люстрамі і залачэннем. З аднаго боку ён выходзіў на сад ці, хутчэй, замкавы парк, з другога — на вялікі парадны двор. Нягледзячы на папярэджанне: «Гарнітур не абавязковы», я палічыў патрэбным дастаць з куфра чорны фрак. Я пачаў разгортваць свае сціплыя пакункі, калі маю ўвагу прыцягнуў нейкі грукат, і я падышоў да акна, што выходзіла на двор. Да замка пад'ехала прыгожая карэта. Там сядзелі дама ў чорным, нейкі пан і жанчына, убраная, як літоўская сялянка, але такая высокая і мажная, што я быў прыняў яе за пераапранутага мужчыну. Яна выйшла першая. Дзве іншыя жанчыны, гэтакія ж дужыя з выгляду, ужо стаялі на ганку. Мужчына схіліўся да дамы ў чорным і, на маё вялікае здзіўленне, адшпіліў шырокі скураны пас, якім дама была прымацаваная да свайго месца ў карэце. У чорнай дамы былі доўгія раскудлачаныя сівыя валасы, а яе шырока расплюшчаныя вочы былі нібы пазбаўленыя жыцця, як у васковай фігуры. Адшпіліўшы даму, яе спадарожнік зняў капялюш і з вялікай павагай нешта ёй сказаў, але здавалася, што яна не звярнула на гэта ніякай увагі. Тады ён павярнуўся да чалядніц і кіўнуў ім галавой. Тры жанчыны ўраз падхапілі даму ў чорным і, не зважаючы на яе спробы ўчапіцца за карэту, узнялі яе, як пярынку, і панеслі ў замак. Сведкамі гэтага відовішча было некалькі чаляднікаў, і здавалася, што для іх у гэтым не было нічога незвычайнага.

Мужчына, які ўсім гэтым кіраваў, выняў гадзіннік і спытаўся, ці хутка пададуць абед.

— Праз чвэрць гадзіны, пане доктар,— адказалі яму.

Мне не цяжка было здагадацца, што гэта быў доктар Фробэр і што дама ў чорным была графіня. Мяркуючы па яе веку, яна была маці графа Шэмета, а асцярога, з якой да яе ставіліся, даводзіла, што розум у яе быў пашкоджаны.

Праз некалькі хвілін у мой пакой увайшоў сам доктар.

— Пан граф хворы,— сказаў ён,— і таму я мушу сам адрэкамендавацца пану прафесару. Доктар Фробэр, да вашых паслуг. Вельмі прыемна пазнаёміцца з вучоным, чые заслугі добра вядомыя ўсім, хто чытае кёнігсбергскую *«Навукова-літаратурную газету»*. Вы не супраць, каб падалі абед?

Я адказаў як мага больш ветліва на ягонае прывітанне і дадаў, што, калі ўжо настаў час сесці за стол, я гатовы.

Калі мы ўвайшлі ў сталовую, старшы лёкай, згодна з паўночным звычаем, паднёс нам срэбную тацу з напоямі і нейкімі салёнымі і вельмі вострымі стравамі для смаку.

— Дазвольце, я як лекар параю вам пакаштаваць гэтую *старку*,— звярнуўся да мяне доктар.— Гэта сапраўдны каньяк саракагадовай вытрымкі, бацька ўсіх напояў. Пакаштуйце таксама дронтхаймскіх анчоўсаў — нішто лепш за іх не спрыяе страваванню... А цяпер — за стол. Мо давайце паразмаўляем па-нямецку? Вы з Кёнігсберга, я з Мемеля, але вучыўся ў Ене. Так нам будзе прасцей, дый чэлядзь нас не зразумее.

Спачатку мы елі моўчкі. Пасля, выпіўшы першы келіх мадэры, я спытаўся ў доктара, ці часта графа турбуе гэтая немач, якая пазбавіла нас сёння ягонага таварыства.

— І так, і не,— адказаў доктар.— Гэта залежыць ад таго, дзе ён гуляе.

— Як гэта?

— Калі ён адыходзіць, напрыклад, Расіёнскім шляхам, ён вяртаецца з мігрэнню і ў панурым настроі.

— Я сам ездзіў у Расіёны, але нічога падобнага са мною не здарылася.

— Гэта гаворыць за тое, пане прафесар, што вы не закаханы,— адказаў, усміхнуўшыся, доктар.

Я ўздыхнуў і падумаў пра панну Гертруду Вебер.

— Дык, значыць, нявеста пана графа жыве ў Расіёнах? — спытаўся я.

— Ну так, у ваколіцах. Але ці нявеста?.. Гэтага я ўжо не ведаю. Сапраўдная баламутка! Ён хутка праз яе звар'яцее, як яго маці.

— І праўда, мне здаецца, што графіня... хворая?

— Ды яна вар'ятка, дарагі пане, вар'ятка! Але найбольшы вар'ят — гэта я сам, бо прыехаў сюды.

— Будзем спадзявацца, што ваш пільны догляд верне ёй здароўе.

Доктар пакруціў галавой, падняў келіх з бардоскім віном і паглядзеў праз яго на святло, любуючыся густым колерам.

— Такі, якім вы мяне цяпер бачыце, пане прафесар, я служыў хірург-маёрам у Калужскім палку. У Севастопалі мы з раніцы да вечара рэзалі рукі і ногі, я ўжо не кажу пра бомбы, што лёталі вакол нас, як мухі вакол скалелага каня. Дык вось, хоць і без жытла, і без харчу, але ж я так

не бедаваў тады, як цяпер тут, дзе я ем і п'ю як найлепей, дзе я жыву, як князь, дзе мне плацяць, як надворнаму лекару... Але ж свабода, дарагі пане!.. Уявіце сабе, што ад гэтай шайтанкі ў мяне не застаецца ніводнай хвілінкі вольнага часу!

— І ці даўно вам яе даручылі?

— Менш чым два гады таму. Але звар'яцела яна ўжо больш чым дваццаць сем год таму, яшчэ да нараджэння графа. Вам не казалі пра гэта ў Расіёнах ці ў Коўне? Ну дык слухайце, бо гэта выпадак, пра які я хачу напісаць аднойчы артыкул у *«Санкт-Пецярбургскі медыцынскі часопіс»*. Яна звар'яцела ад жаху...

— Ад жаху? Ці гэта магчыма?

— Ад жаху, які яна аднойчы перажыла. Яна паходзіць з роду Кейстута... О! У гэтым родзе не бяруць шлюбу з няроўнымі. А мы паходзім ад Гедыміна... Дык вось, пане прафесар, праз тры... ці нават два дні пасля вяселля, якое святкавалася ў гэтым самым замку (за вашае здароўе!), граф, бацька цяперашняга, паехаў на паляванне. Нашы літоўскія жанчыны — амазонкі ад роду, як вы ведаеце. Графіня таксама паехала... Ці яна скакала ззаду, ці мо абагнала астатніх паляўнічых... я не ведаю... Але раптам да графа наўскачкі падлятае графінін пахолак, хлопец дванаццаці ці чатырнаццаці гадоў.

— Гаспадар,— кажа ён,— мядзведзь панёс графіню!

— Дзе? — пытаецца граф.

— Вунь там,— адказвае хлапец.

Усе паляўнічыя скачуць туды, дзе ён паказвае,— графіні ані следу! Ляжыць яе задушаны конь, побач — яе падраны на шматкі кажушок. Пачалі шукаць па ўсім лесе. Нарэшце адзін паляўнічы крычыць: «Мядзведзь!» І праўда, праз паляну ішоў мядзведзь і цягнуў з сабой графіню, напэўна, каб пасля спакойна з'есці яе ў гушчары, бо гэтыя звяры — вялікія гурманы. Яны любяць, як манахі, паесці ў зацішку. Графа, які быў жанаты ўсяго другі дзень, ахапіў рыцарскі запал, ён хацеў кінуцца на мядзведзя з паляўнічым нажом. Але, дарагі пане, літоўскі мядзведзь не дасць пратнуць сябе, як нейкі там алень. На шчасце, графаў збраяносец, гультаяваты дзяцюк, які быў таго дня такі п'яны, што не адрозніў бы зайца ад казулі, стрэліў з карабіна болей чым за сто крокаў і нават не падбаў, куды пацэліць куля — у звера ці ў жанчыну...

— І ён забіў мядзведзя?

— Насмерць. На такія стрэлы здатныя толькі п'яныя.

Але бываюць таксама і замоўленыя кулі, пане прафесар. У нас тут ёсць ведзьмакі, што прадаюць іх за адпаведную плату... Графіня была моцна падрапаная, беспрытомная і з паламанай нагой. Яе вынеслі, яна апрытомнела, але розум ужо быў пакінуў яе. Яе вазілі ў Санкт-Пецярбург. Сур'ёзная кансультацыя, чатыры лекары, абвешаныя ўсімі ордэнамі. Яны сказалі: «Пані графіня цяжарная, і, магчыма, роды стануцца прычынай спрыяльнага крызісу. Трэба яе трымаць на чыстым паветры, у вёсцы, даваць ёй піць сыроватку, кадэін...» Лекарам далі па сто рублёў кожнаму. Праз дзевяць месяцаў у графіні нарадзіўся здаровы хлопчык. А дзе ж спрыяльны крызіс? Ніякага крызісу, вар'яцтва толькі абвастрылася. Граф паказаў ёй дзіця. Гэта заўсёды робіць моцнае ўражанне... у раманах. «Забіце яго! Забіце звера!» — закрычала яна і ледзь не кінулася, каб перагрызці яму горла. З таго часу тупое вар'яцтва чаргуецца ў яе з шалёнай маніяй. Моцная схільнасць да самагубства. Прыходзіцца прывязваць яе падчас прагулак. Каб за ёй даглядаць, наймаюць трох дужых кабецін. Аднак, пане прафесар, заўважце яшчэ і вось што: калі я ўжо страціў цярпенне, але так і не прымусіў яе слухацца, я знайшоў адзін сродак, каб яе супакоіць. Я пагражаю ёй абрэзаць валасы. Думаю, што некалі яны былі вельмі прыгожыя. Какетлівасць! Вось апошняе чалавечае пачуццё, якое ў яе засталося. Дзіўна? Але калі б я мог абыходзіцца з ёй як хачу, можа, я б яе і вылечыў.

— Як?

— А дубцом. Я вылечыў гэткім чынам сорак сялянак у вёсцы, дзе лютавала шалёнае рускае вар'яцтва, што завецца *«кликушество»*: спачатку пачынае выць адна баба, за ёй яе сяброўка, а праз тры дні вые ўся вёска. Добра іх адсцябаўшы, я выгнаў з іх хваробу. (Пакаштуйце рабкоў — вельмі смачныя.) Але граф ніколі не дазваляў мне паспрабаваць.

— Як! Вы хацелі, каб ён згадзіўся на гэткае жахлівае лячэнне?

— О! Ён так мала ведае сваю маці, але гэта нават і добра. Але скажыце мне, пане прафесар, ці б вы калі паверылі, што можна звар'яцець ад жаху?

— Становішча графініна было страшнае... Быць у кіпцюрах такога лютага звера!

— А вось сын да яе не падобны. Менш чым год таму ён трапіў у такое самае становішча і, дзякуючы сваёй вытрымцы, выдатна выкруціўся.

— З кіпцюроў мядзведзя?

— Мядзведзіцы, і самай вялікай, якую толькі бачылі ў апошнія гады. Граф хацеў напасці на яе з рагацінай. Куды там! Адным ударам яна выбіла рагаціну, схапіла графа і кінула яго на зямлю так проста, як бы я зараз перакуліў гэтую бутэльку. А ён, хітрун, прыкінуўся мёртвым... Мядзведзіца яго абнюхала і, замест таго каб раздзерці, лізнула яго. Яму хапіла розуму не варухнуцца, і яна пайшла сваёй дарогай.

— Мядзведзіца падумала, што ён памёр. Я чуў, што гэтыя звяры не ядуць мерцвякоў.

— З гэтым трэба пагадзіцца і ўстрымацца ад таго, каб правяраць гэта на практыцы. А што да страху, дык я распавяду вам адну севастопальскую гісторыю. Мы сядзелі ўпяцёх ці ўшасцёх за шпіталем славутага 5-га батальёна вакол збана піва. Раптам вартавы крычыць: «Бомба!» Мы ўсе ўпалі ніцма. Але не ўсе — адзін... прозвішча яго ўжо не памятаю... малады афіцэр, які нядаўна да нас прыбыў, застаўся стаяць, трымаючы поўны куфаль, і ў гэты момант выбухнула бомба. Яна адарвала галаву майму няшчаснаму сябру Андрэю Спяранскаму і разбіла збан, які, на шчасце, ужо быў амаль пусты. Калі мы ўсталі пасля выбуху, убачылі сярод дыму нашага таварыша, які дапіваў сваё піва, нібы нічога і не здарылася. Мы палічылі яго героем. На другі дзень я сустракаю капітана Гедэонава, які выйшаў са шпіталя. Ён кажа мне: «Сёння я вячэраю з вамі і, каб адсвяткаваць маё вяртанне, стаўлю шампанскае». Мы селі за стол. Учорашні малады герой таксама быў з намі. Ён не ведаў пра шампанскае. Бутэльку адкаркоўваюць побач з ім... Бабах! Корак б'е яму ў скронь. Ён ускрыквае, і яму робіцца млосна. Паверце, што наш герой страшэнна напалохаўся і тады, першы раз, і не хаваўся, а піў піва толькі таму, што ашалеў ад страху і рабіў усё машынальна, несвядома. І праўда, пане прафесар, чалавечы арганізм...

— Пане доктар,— сказаў слуга, які ўвайшоў у сталовую,— Жданава кажа, што пані графіня не хочуць есці.

— Каб яе д'яблы з'елі! — прабурчаў доктар.— Іду, іду. Як толькі я накармлю гэтую шайтанку, пане прафесар, мы зможам, калі вам будзе прыемна, згуляць партыю ў *прэферанс* або ў *дурня*.

Я выказаў яму маё шкадаванне з прычыны маёй неабазнанасці ў картачных гульнях, і, калі ён пайшоў да хворай, я вярнуўся ў свой пакой і напісаў ліст панне Гертрудзе.

## II

Ноч была цёплая, і я адчыніў акно ў парк. Я скончыў ліст, але спаць яшчэ не хацелася, і я ўзяўся праглядаць літоўскія нерэгулярныя дзеясловы і шукаць у санскрыце прычыны іх нерэгулярнасці. Так я сядзеў, захоплены гэтай працай, калі раптам дрэва, што стаяла насупраць акна, моцна страсянулася. Я пачуў трэск сухіх галін, і мне здалося, што на дрэва спрабаваў узлезці нейкі даволі важкі звер. Пад уражаннем доктаравых расказаў пра мядзведзяў я падняўся з нейкім неспакоем у душы і ўбачыў за акном у лістоце дрэва чалавечы твар, асветлены яркім святлом маёй лямпы. Прывід паказаўся ўсяго на некалькі імгненняў, але дзіўны бляск яго вачэй, з якімі сустрэўся мой позірк, надзвычай мяне ўразіў. Я мімаволі адскочыў назад, пасля зноў падбег да акна і суровым голасам спытаўся ў нахабніка, чаго ён хоча. Тым часам ён паспешліва спусціўся і, ухапіўшыся за тоўстую галіну, павіс на ёй, пасля скочыў на зямлю і раптоўна знік. Я пазваніў, увайшоў слуга. Я расказаў яму пра здарэнне.

— Пан прафесар, напэўна, памыліўся.

— Я ўпэўнены ў тым, што кажу,— запярэчыў я.— Баюся, што па парку ходзіць злодзей.

— Немагчыма, пане.

— Дык тады гэта нехта свой?

Слуга вытрашчыў вочы і нічога не адказаў. Нарэшце ён спытаўся, ці мне што патрэбна. Я папрасіў яго зачыніць акно і паклаўся спаць.

Спаў я даволі добра і не сніў ні мядзведзяў, ні зладзеяў. Раніцай, калі я ўжо канчаў прыбірацца, у дзверы пастукалі. Я адчыніў і ўбачыў перад сабою высокага і прыгожага маладога мужчыну ў бухарскім халаце і з доўгай турэцкай люлькай у руцэ.

— Я прыйшоў папрасіць у вас прабачэння, пане прафесар, што так непрыветна сустрэў такога госця, як вы. Я граф Шэмет.

Я не затрымаўся з адказам, пакорна падзякаваў за яго надзвычайную гасціннасць і спытаўся, ці прайшла ў яго мігрэнь.

— Ужо амаль прайшла,— адказаў граф.— Да новага прыступу,— сумна дадаў ён.— Ці добра вы тут пачуваецеся? Не забывайцеся, што вы тут сярод дзікуноў. Жамойць не цярпіць пераборлівых.

Я запэўніў яго, што адчуваю сябе цудоўна. Размаўляю-

чы з ім, я мімаволі разглядаў яго з цікаўнасцю, якая нават мне самому здалася трошкі нахабнай. Нешта дзіўнае было ў яго позірку, і міжвольна мне прыгадаўся чалавек, што напярэдадні ўзлез на дрэва...

«Але ж дзіўна,— сказаў я сам сабе,— каб граф Шэмет начамі лазіў па дрэвах!»

Ён меў высокі, пукаты, хоць і трошкі вузкі, лоб. Рысы твару ўражвалі правільнасцю. Толькі вочы былі занадта блізкія адно да аднаго, і мне здалося, што адлегласць паміж слёзнымі залозамі была меншая, чым даўжыня вока, што пярэчыла канонам грэчаскай скульптуры. Ён глядзеў, нібы працінаючы наскрозь. Нашы позіркі раз-пораз сустракаліся, і мы абодва збянтэжана адводзілі вочы. Раптам граф засмяяўся і сказаў:

— А вы мяне пазналі!

— Пазнаў?

— Ну так, вы заспелі мяне ўчора, як я блазнаваў і лазіў па дрэвах.

— О, пане графе!..

— Цэлы дзень я сядзеў, зачыніўшыся ў кабінеце, і пакутаваў ад нясцерпнага болю. Увечары, калі трошкі адпусціла, я выйшаў прагуляцца ў сад. Я ўбачыў у вас святло і не мог стрымацца, каб не зірнуць... Вядома ж, я мусіў адрэкамендавацца, але выпадак быў не надта дарэчны... Мне стала сорамна, і я ўцёк... Прабачце, што патурбаваў вас за працай.

Усё гэта было сказана з удаванай легкадумнасцю, але ён пачырванеў, і было відаць, што яму зрабілася няёмка. Я паспрабаваў пераканаць яго, што не сярдую на яго, і, каб скончыць з гэтай тэмай, я спытаўся, ці праўда, што ён мае «Жамойцкі катэхізіс» айца Лявіцкага.

— Магчыма. Але, праўду кажучы, я не надта добра ведаю бацькаў кнігазбор. Ён любіў старыя кнігі і розныя рарытэты. А я чытаю толькі сучасныя выданні, але мы пашукаем, пане прафесар. Дык, значыць, вы хочаце, каб у нас чыталі Евангелле па-жамойцку?

— А ці не думаеце вы, пане графе, што пераклад Святога пісання на мову гэтага краю быў бы вельмі пажаданы?

— Без сумнення. Аднак дазвольце мне заўважыць, што сярод людзей, якія ніякай іншай мовы, апроч жамойцкай, не ведаюць, ніводзін не ўмее чытаць.

— Магчыма. Але хай яснавяльможны пан дазволіць мне заўважыць, што найбольшай перашкодай для пашырэння пісьменнасці ёсць адсутнасць кніг. Калі жамойты займеюць сваё друкаванае слова, яны захочуць чытаць, яны

навучацца чытаць. Так ужо было з іншымі дзікунамі... хоць я і не хачу стасаваць гэтае слова да жыхароў гэтага краю... Зрэшты,— дадаў я,— ці не прыкра, калі мова знікне, не пакінуўшы следу? Вось ужо болей за трыццаць гадоў, як памерла *пруская* мова. Нядаўна памёр апошні чалавек, які ведаў *карнуэльскую* мову...

— Шкада,— перапыніў граф.— Аляксандр Гумбальт распавядаў майму бацьку, што ведаў у Амерыцы папугая, які адзін ведаў некалькі слоў на мове плямені, сёння ўжо цалкам вынішчанага воспай. Вы не супраць, каб нам сюды прынеслі гарбаты?

Пакуль мы пілі гарбату, гаворка круцілася вакол жамойцкай мовы. Графу не падабалася, як немцы прыстасавалі свой алфавіт да літоўскай мовы, і ён меў рацыю.

— Ваш алфавіт,— сказаў ён,— не падыходзіць нашай мове. У вас няма ні нашага «ж», ні нашага «л», ні нашага «і», ні нашага «е». У мяне ёсць зборнік *дайнаў*, выдадзены летась у Кёнігсбергу, і колькі я ні б'юся, не магу распазнаць словы, так яны перакручаныя.

— Яснавяльможны пан, відаць, мае на ўвазе дайны Леснэра?

— Так. Даволі пасрэдныя тэксты, праўда?

— Магчыма, можна было знайсці і лепшыя. Я згодны, што ў такім выглядзе гэты зборнік мае толькі чыста філалагічную каштоўнасць, але я веру, што, калі добра пашукаць, сярод вашага фальклору можна знайсці значна прыгажэйшыя кветкі.

— Авох! Нягледзячы на мой патрыятызм, я вельмі сумняваюся ў гэтым.

— Некалькі тыдняў таму мне ў Вільні перадалі вельмі прыгожую баладу, да таго ж гістарычную... Паэтычны бок проста бездакорны... Дазвольце, я вам яе прачытаю. Зараз, толькі пашукаю ў паперах.

— Буду вельмі рады.

Ён апусціўся ў фатэль, спытаўшы дазволу закурыць.

— Я разумею паэзію, толькі калі куру,— растлумачыў ён.

— Балада называецца «Тры Будрысы».

— «Тры Будрысы»? — здзіўлена перапытаў граф.

— Так. Яснавяльможны пан лепш за мяне ведае, што Будрыс — гістарычная асоба.

Граф неадрыўна глядзеў на мяне сваім дзіўным позіркам. У ім было нешта неакрэсленае, адначасна нясмелае і лютае, ад чаго рабілася ніякавата. Я пачаў чытаць, каб пазбегнуць няёмкасці:

## ТРЫ БУДРЫСЫ[1]

Стары Будрыс трох сыноў,
Як сам, гэткіх літвінаў,
Да сябе на дзядзінец паклікаў
Ды ім кажа: «Зважайце,
Коні борзда сядлайце,
Натачыце мячы ўміг і пікі!
З Вільні вестку мне далі,
Што ўжо там наказалі
Тры вайны на тры свету староны:
Ольгерд рускіх біць едзе,
Скіргел — ляхаў-суседзяў,
А князь Кейстут разгроміць Тэўтоны.
«Вы адважныя хлопцы,
Паслужыце старонцы,
Хай вядуць вас літоўскія богі!
Застаюся я дома,
Дам вам раду, вядома:
Трох вас ёсць і тры ёсць вам дарогі.
«Хай адзін у Расію
За Ольгердам шлях крые
Па-над Ільмень, пад мур Наваграду;
Там саболлі апоны,
Залатыя заслоны,
І ў купцоў там чырвонцаў, як лёду.
«Хай да князя Кейстута
Другі едзе, а хутка,
Крыжакоў хай знішчае дашчэнту!
Як пяску, там бурштынаў,
Сукны дзіўнай тканіны,
І там рызы ў ксяндзоў ў дыяментах.
«Мусіць к Скіргелу трэці
Па-за Нёман ляцеці,
Беднату там убачыць ліхую,
Але возьме за тое
Узбраенне стальное
І мне стуль прывязе сынавую.
«Бо з нявольніц мне толькі
Спадабаліся polькі,—
Так панадны мне стан іх дзявочы,
Твар іх бела-ружовы,
Як смоль, чорныя бровы,
Як дзве зоркі, іх свецяцца вочы.
«Маладым чалавекам
Я адтуль прад паўвекам
Сабе вывез палячку за жонку;
Хоць яе пахаваў я,
Ўсё яшчэ ўспамінаю,
Калі гляну я ў тую старонку».
Даўшы так засцярогу,
Блаславіў на дарогу;
Яны ўзялі бронь, селі, пабеглі.

[1] Пераклад Я. Купалы.

Ўжо й зіма надыходзе,—
Сын не едзе ніводзін,—
Будрыс думаў, што ў бітвах палеглі.
Па сняжыстай дарожцы
Мчыцца ў зброі хтось к вёсцы,
А пад буркаю нешта хавае:
— «Кубел — гэта, знаць, ноша,
А ў ім рускія грошы».
— «Татка,— полька, твая сынавая!»
Па сняжыстай дарожцы
Мчыцца ў зброі хтось к вёсцы,
А пад буркаю нешта хавае.
— «Мусіць, з Прусаў, мой сыну,
Цягнеш кубел бурштынаў?»
— «Татка,— полька, твая сынавая!»
Па сняжыстай дарожцы
Трэці нехта мкне к вёсцы,
А пад буркай вяліка здабыча.
Будрыс — што? — не пытае,
Толькі госці склікае,
На вяселле іх трэцяе кліча.

— Слава, пане прафесар! — закрычаў граф.— У вас цудоўнае жамойцкае вымаўленне. Але хто вам перадаў гэтую прыгожую дайну?

— Адна паненка, з якой я меў гонар пазнаёміцца ў Вільні ў графіні Катарыны Пац.

— І яе імя...

— Панна Івінская.

— Панна Юлька! — закрычаў граф.— Дурнічка! Як я не здагадаўся! Дарагі прафесар, вы ведаеце жамойцкую і ўсе вучоныя мовы, вы перачыталі ўсе старыя кнігі, але вас падманула дзяўчо, якое, апроч раманаў, нічога не чытала. Яна пераклала вам на даволі прыстойную жамойцкую мову адну з цудоўных баладаў Міцкевіча, якую вы не чыталі, бо яна не старэйшая за мяне. Калі хочаце, я пакажу вам яе па-польску, а калі вы жадаеце пабачыць выдатны рускі пераклад, я пакажу вам Пушкіна.

Прызнаюся, што я быў агаломшаны. От бы ўсцешыўся дэрпцкі прафесар, калі б я выдаў, як арыгінальную, дайну пра Будрысаў!

Замест таго каб пазабавіцца з майго замяшання, граф з выключнай ветлівасцю адразу ж перавёў гутарку на іншае.

— Дык вы ведаеце панну Юльку?

— Я меў гонар быць ёй адрэкамендаваным.

— Што вы пра яе думаеце? Толькі шчыра.

— Вельмі мілая дзяўчына.

— Што вы кажаце?

— І прыгожанькая.

— О!

— А што, хіба ў яе не найпрыгажэйшыя ў свеце вочы?

— Найпрыгажэйшыя.

— Скура незвычайна белая?.. Мне прыгадваецца персідская газель, дзе каханак апявае далікатную скуру сваёй выбранніцы: «Калі яна п'е чырвонае віно, відаць, як яно расцякаецца па жылах». Панна Івінская нагадала мне гераіню гэтага верша.

— Можа, панна Юлька і сапраўды такая, але я сумняваюся, ці цячэ ў яе жылах кроў... У яе няма сэрца... Яна белая і халодная, як снег!..

Ён устаў і нейкі час моўчкі хадзіў па пакоі, як мне здавалася, каб прыхаваць узрушанасць. Пасля раптам спыніўся:

— Прабачце, мы, здаецца, гаварылі пра народную паэзію...

— І праўда, пане графе.

— І ўсё ж трэба прызнацца, што яна ладненька пераклала Міцкевіча... «Твар іх бела-ружовы, як смоль, чорныя бровы, як дзве зоркі, іх свецяцца вочы». Вось яе партрэт. Падобна?

— Абсалютна, пане графе.

— Што ж тычыцца гэтага жарту... зрэшты, вельмі недарэчнага... беднае дзіцятка нудзіцца ў старой цёткі... Яна жыве, як у кляштары.

— У Вільні яна паказвалася ў свеце. Я бачыў яе на балі, што ладзілі афіцэры...

— Ну, вядома, маладыя афіцэры — вось якое таварыства ёй даспадобы. Пасмяяцца з адным, папляткарыць з другім, а ўрэшце закруціць усім галаву... Давайце лепш паглядзім кнігазбор майго бацькі.

Я прайшоў за ім да прасторнай галерэі, дзе было мноства кніжак, прыгожа пераплеценых, але рэдка чытаных, як можна было меркаваць з пылу, які пакрываў карэньчыкі. Можна сабе ўявіць маю радасць, калі, выцягнуўшы з шафы першую кнігу, я ўбачыў, што гэта *«Жамойцкі катэхізіс»*! Не стрымаўшыся, я закрычаў ад радасці. Пэўна, нейкае таямнічае прыцягненне ўплывае на нас без нашага ведама... Граф узяў кнігу і, няўважна пагартаўшы, напісаў на першай старонцы: *«Пану прафесару Вітэмбаху ад Міхала Шэмета»*. Я не здолею выказаць усю маю ўзрушанасць і ўдзячнасць, але тады я паабяцаў у думках, што, калі я

памру, гэтая найкаштоўнейшая кніга аздобіць бібліятэку універсітэта, дзе я атрымаў свае ступені.

— Можаце лічыць бібліятэку вашым кабінетам,— сказаў мне граф.— Вам тут ніхто не будзе замінаць.

## III

На другі дзень пасля снядання граф запрасіў мяне прагуляцца. Мы меліся наведаць адзін *«капас»* (так літоўцы называюць узгоркі, якія ў славян вядомыя пад назвай *«курган»*). Гэтае месца было добра вядомае ў наваколлі, бо некалі паэты і ведзьмакі (а тады паміж імі вялікай розніцы не было) збіраліся там з пэўных урачыстых нагодаў.

— У мяне для вас ёсць рахманы конік,— сказаў граф.— На жаль, не магу запрапанаваць вам брычку. Хоць, праўда, і дарога, якой мы паедзем, не надта праезная.

Я меў бы за лепшае застацца ў бібліятэцы і зрабіць некаторыя запісы, але не наважыўся пярэчыць майму велікадушнаму гаспадару і згадзіўся. Коні чакалі нас каля ганка, у двары чаляднік трымаў навязанага сабаку. Граф на хвілінку спыніўся і павярнуўся да мяне:

— Пане прафесар, ці знаецеся вы на сабаках?

— Вельмі мала, ясны пане.

— Заранскі староста даслаў мне гэтага спаніэля, цвердзячы, што гэта цуд, а не сабака. Дазвольце, я яго пагляджу.— Ён паклікаў чалядніка, і той прывёў сабаку. Жывёліна папраўдзе была прыгожая. Ужо прызвычаіўшыся да чалядніка, сабака радасна скакаў і, здавалася, быў поўны весялосці. Але за некалькі крокаў да графа ён падціснуў хвост, адскочыў назад, быццам працяты раптоўным страхам. Граф палашчыў яго, і той журботна завыў. Тады граф паглядзеў на яго вокам знаўцы і сказаў:

— Я думаю, з яго выйдзе добры сабака. Патрэбны догляд.

Пасля ён ускочыў у сядло.

— Пане прафесар,— звярнуўся да мяне граф, калі мы ўжо ехалі замкавымі прысадамі,— вы толькі што бачылі, як напалохаўся сабака. Я хацеў, каб вы ўбачылі гэта на свае вочы... Вы як вучоны мусіце ўмець разгадваць таямніцы... Чаму жывёлы мяне баяцца?

— Сапраўды, пане граф, надта вялікі гонар для мяне, што вы маеце мяне за Эдыпа. Я ўсяго толькі бедны прафесар параўнальнага мовазнаўства. Можа...

— Заўважце,— перарваў ён мяне,— што я ніколі не

б'ю ні коней, ні сабак. Мяне б мучыла сумленне, калі б я хвастануў бедную жывёліну, якая зрабіла глупства, не ўсведамляючы гэтага. І аднак, вы не паверыце, як мяне баяцца коні і сабакі. Каб прызвычаіць іх да сябе, я губляю ўдвая болей сілы і часу, чым хто іншы. Вось хоць бы конь, на якім вы седзіцё. Колькі я патраціў часу, каб яго ўтаймаваць, а цяпер ён ціхі, як авечка.

— Я думаю, пане графе, што жывёлы добра разбіраюцца ў людзях, яны адразу распазнаюць, ці даспадобы ім чалавек, якога яны бачаць упершыню. Я падазраю, што вы цэніце жывёл толькі за тыя паслугі, што яны вам робяць, і наадварот, ёсць людзі, якія маюць прыродную прыхільнасць да пэўных жывёл, і тыя адразу ж гэта адчуваюць. Вось як я, прыкладам, маю з маленства нейкую прыродную любасць да катоў. І калі я падыходжу, каб палашчыць якога, яны ніколі не ўцякаюць. І ніколі ніводзін кот мяне не падрапаў.

— Цалкам магчыма,— адказаў граф.— Дый праўда, неяк, як кажуць, не ляжыць у мяне душа да жывёл... Яны нічым не лепшыя за людзей... Я вяду вас, пане прафесар, у пушчу, дзе яшчэ і дагэтуль квітнее звярынае валадарства, *матачнік*, вялікая маці, вялікая вытворня жывых істотаў. Так, паводле народных паданняў, ніхто яшчэ не заходзіў у гушчары, ніхто не дабіраўся да сярэдзіны гэтых лясоў і балотаў, акрамя паэтаў і ведзьмакоў, якім адкрытыя ўсе сцежкі. Там праўдзівая звярыная рэспубліка... ці, лепш сказаць, канстытуцыйнае кіраванне. Львы, мядзведзі, алені, *зубры* — нашыя літоўскія бізоны — усе яны добра ладзяць між сабою. Найбольшай павагай карыстаецца мамант, які там яшчэ захаваўся. Ён, напэўна, маршалак сойма. У іх вельмі суровая паліцыя, і калі сярод звяроў знаходзіцца нейкі злачынца, яны судзяць яго і выганяюць. Тады ён трапляе з агню ў полымя, бо вымушаны бадзяцца ў краіне людзей. Адтуль мала хто вяртаецца.

— Цікавае паданне,— сказаў я з захапленнем.— Але, пане графе, вы расказалі пра бізона. Ці ж гэты шляхетны звер, якога Цэзар апісаў у сваіх «Каментарыях» і на якога меравінгі палявалі ў Кампенскім лесе, яшчэ папраўдзе сустракаецца ў Літве, як я толькі што ад вас пачуў?

— Без сумнення. Мой бацька сам забіў аднаго зубра, вядома ж, з урадавага дазволу. Вы маглі бачыць ягоную галаву ў вялікай зале. Сам я іх ніколі не бачыў, яны, відаць, трапляюцца вельмі рэдка. Затое ваўкоў і мядзведзяў у нас тут процьма. На выпадак магчымай сустрэчы з гэтымі

ягамосцямі я ўзяў з сабой гэтую надобу (ён паказаў чаркескую вінтоўку за плячом), а ў майго чалядніка напагатове двухнабойны карабін.

Пачаўся лес. Хутка вузенькая сцежка, па якой мы ехалі, знікла зусім. Штохвіліны мы мусілі аб'язджаць таўшчэзныя дрэвы, нізкія галіны якіх засланялі нам праезд. Некаторыя з іх, мёртвыя вываратні, уяўляліся нам непраходнымі абарончымі валамі з рагаткамі ўздоўж насыпы. У іншым месцы трапляліся глыбокія ставы, зарослыя гарлачыкамі і раскай. Далей адкрываліся паляны, дзе расла ярка-смарагдавая трава; але гора таму, хто прывабіцца гэтай прыгажосцю, бо багатая і зманлівая расліннасць хавае звычайна багністыя прорвы, дзе знікне без знаку назаўсёды і конь, і коннік...

Дарожныя перашкоды перапынілі нашую размову. Я з усіх сіл намагаўся, каб не адстаць ад графа, і дзівіўся ягонай спакойнай празорлівасці, з якой ён без компаса выбіраў заўсёды самы правільны кірунак. Відаць, ён ужо здаўна паляваў у гэтых дзікіх лясах.

Урэшце пасярод шырокай паляны мы ўбачылі курган. Ён быў даволі высокі, вакол яго яшчэ можна было заўважыць роў, парослы хмызам і сям-там ужо засыпаны. На вяршыні віднеліся руіны нейкай каменнай будовіны са слядамі пажару. Попел, перамяшаны з вуглем, аскялёпкі нейкага таўстасценнага глінянага начыння сведчылі, што на вяршыні кургана доўгі час гарэў агонь. Калі даць веры тутэйшым паданням, дык некалі на курганах спраўлялі чалавечыя ахвяры. Але, відаць, няма такіх згаслых рэлігій, якім не прыўлашчалі б гэткія агідныя абрады, і я сумняваюся, каб нейкія гістарычныя дакументы пацвердзілі б гэтае прыпушчэнне ў дачыненні да старажытных літоўцаў.

Мы спусціліся з кургана і ўжо падышлі да коней, якіх пакінулі па той бок рова, калі да нас, абапіраючыся на кіёк, падышла бабулька з кошыкам.

— Паночкі, даражэнькія,— сказала яна, наблізіўшыся,— дзеля Бога, зрабіце ласку, дайце старэнькай на чарку гарэлкі, каб сагрэць убогае цела.

Граф кінуў ёй срэбную манету і спытаўся, што яна робіць у лесе так далёка ад чалавечага жытла. Замест адказу яна паказала яму кошык грыбоў. І хоць мае батанічныя веды вельмі абмежаваныя, мне здалося, што сярод грыбоў было шмат воўчых.

— Жанчына,— звярнуўся я да яе,— спадзяюся, вы не збіраецеся гэта есці?

— Ой, паночку,— адказала старая, сумна ўсміхнуўшыся,— бедныя людзі ядуць усё, што пан Бог пашле.

— Вы не ведаеце нашыя літоўскія страўнікі,— умяшаўся граф.— Яны як бляхай падбітыя. Нашыя сяляне ядуць усе грыбы, што знойдуць, і ім ад гэтага толькі лепей.

— Не дазваляйце ёй каштаваць хоць бы той *agaricus necator*, які я бачу ў кошыку! — закрычаў я.

І я выцягнуў руку, каб узяць гэты ці не самы атрутны грыб, але старая хуценька адсунула кошык.

— Беражыцеся,— спалохана сказала яна,— грыбы сцеражоныя... *Піркунс! Піркунс!*

*Піркунс*, між іншым,— жамойцкая назва боства, якога славяне завуць *Перуном*, гэта славянскі Юпітэр, *грамавік*. Я здзівіўся, пачуўшы, як старая заклікае паганскага бога, але яшчэ болей я здзівіўся, убачыўшы, як грыбы заварушыліся, з іх вылезла чорная змяіная галава і паднялася над кошыкам на вышыню стапы. Я адскочыў назад, а граф сплюнуў праз плячо, згодна з забабоннай звычкай славянаў, якія за прыкладам старажытных рымлян лічаць, што гэта адверне ад іх усе злыбеды. Старая паставіла кошык на зямлю і прысела побач. Пасля, выцягнуўшы руку да змяі, яна вымавіла нейкія незразумелыя словы, відаць, нейкі заклён. На хвіліну змяя знерухомела, пасля, абвіўшыся вакол ссохлай старэчай рукі, знікла ў рукаве кажушка, які, разам з падранай спадніцай, складаў усё ўбранне гэтай літоўскай Цырцэі. Старая паглядзела на нас з пераможнай усмешкай, як штукар, якому ўдаўся складаны фокус. На твары яе адбіваліся хітрасць і тупасць, як у тых дурнаватых махляроў, што ўдаюць з сябе ведзьмакоў.

— Вось вам,— сказаў мне па-нямецку граф,— прыклад *мясцовага каларыту*: вядзьмарка зачароўвае змяю ля падножжа кургана ў прысутнасці вучонага прафесара і цёмнага літоўскага шляхціца. Добры сюжэт для жанравай карціны вашага суайчынніка Кнаўса... ці не жадаеце, каб яна вам паваражыла? Цудоўная нагода.

Я адказаў, што не збіраюся заахвочваць падобныя заняткі.

— Я б лепш спытаўся ў яе,— дадаў я,— ці не ведае яна падрабязней гэтае дзіўнае паданне, пра якое вы мне зараз расказалі. Жанчына,— сказаў я старой,— ці не чула ты пра куток гэтага лесу, дзе звяры жывуць грамадой, не ведаючы пра чалавечы свет?

Старая кіўнула галавой і сказала, дурнавата ўсміхнуўшыся:

— Я якраз адтуль іду. У звяроў болей няма караля. Леў, стары *нобіль*, памёр. Звяры выбіраюць новага караля. Ідзі, можа, яны выберуць цябе.

— Што ты кажаш, маці? — зарагатаў граф.— Ці ты ведаеш, з кім гаворыш? Дык ты не ведаеш, што гэты пан... О д'ябал, як жа ж будзе па-жамойцку «прафесар»? Пан — вялікі вучоны, мудрэц, *вайдалот*.

Старая паглядзела ўважліва.

— Я схібіла,— сказала яна,— гэта ты мусіш туды ісці. Ты станеш іхнім каралём, а не ён. Ты вялікі, ты моцны, у цябе кіпці і зубы...

— Як вам падабаюцца яе жарты? — спытаўся ў мяне граф.— Матухна, ці ты ведаеш дарогу? — пацікавіўся ён у старой.

Яна паказала яму рукой на лес.

— Туды? — перапытаў граф.— А балота? Як яго перайсці? Вы ведаеце, пане прафесар, там, дзе яна паказала,— непраходнае балота, возера вадкай гразі, зарослае зялёнай травой. Летась я параніў аленя, і ён кінуўся ў гэтае д'яблава балота. Я бачыў, як ён павольна, павольна апускаўся... Праз дзве хвіліны былі відны ўжо толькі рогі. Хутка ён знік увесь, а за ім два мае сабакі.

— Але я не цяжкая,— ашчэрылася старая.

— Я думаю, што ты пералятаеш балота вельмі проста — на мятле.

Вочы старой пыхнулі злосцю.

— Паночку,— зноў працяжна загугнявіла яна,— ці не дасі старой беднай жанчыне тытуню на люльку? — і дадала: — Лепш шукай дарогі праз балота, чым ездзіць у Даўгялы.

— Даўгялы! — граф пачырванеў.— Што ты хочаш сказаць?

Мімаволі я заўважыў, што слова гэтае зрабіла на яго дзіўнае ўражанне. Ён відавочна збянтэжыўся, апусціў галаву і, каб схаваць замяшанне, узяўся развязваць капшук з тытунём, што вісеў на тронку паляўнічага нажа.

— Не, не ездзі ў Даўгялы,— паўтарыла старая.— Белая галубка не для цябе. Так, Піркунс?

У гэты момант з-пад каўняра кажушка паказалася змяіная галава. Змяя паднялася да гаспадынінага вуха і, відаць, адмыслова навучаная, пачала разяўляць пашчу, быццам гаворачы.

— Ён кажа, што я маю рацыю,— дадала старая.

Граф сыпнуў ёй у руку жменьку тытуню.

— Ты мяне ведаеш? — спытаўся ён у яе.

— Не, паночку.

— Я — мядзінцілтаўскі гаспадар. Прыходзь да мяне гэтымі днямі. Я дам табе тытуню і гарэлкі.

Старая пацалавала графу ў руку і паспешліва адышла. Праз хвіліну яе ўжо не было відаць. Граф заставаўся стаяць у задуменні, рукі яго несамохаць завязвалі і развязвалі матузок капшука.

— Пане прафесар,— сказаў ён пасля доўгага маўчання,— вы, можа, будзеце смяяцца з мяне. Гэтая старая паскудніца ведае мяне лепш, чым вам здаецца, а дарога, якую яна мне паказала... Зрэшты, у гэтым няма нічога дзіўнага. Мяне ў наваколлі ўсе ведаюць, як аблупленага сабаку. Гэтая круцелька не раз бачыла мяне па дарозе ў Даўгялаўскі замак... Там ёсць панна на выданні, а гэтая каргота вырашыла, што я ў тую панну закаханы... Пасля які-небудзь малойчык даў ёй у лапу, каб яна абвясціла мне благі лёс... Усё гэта кідаецца ў вочы, і, аднак... яе словы мяне кранулі... Я амаль баюся. Вам смешна, і вы маеце рацыю... І праўда, я збіраўся ехаць у Даўгялы, а цяпер не ведаю, ехаць ці не... Але ж я і дурны! Ну, пане прафесар, вам вырашаць. Ці едзем?

— Абмяжуюся адной заўвагай,— засмяяўся я.— Што тычыцца жаніцьбы, я ніколі не даю парадаў.

Мы вярнуліся да коней. Граф спрытна скочыў у сядло і, адпусціўшы павады, крыкнуў:

— Хай конь вырашыць за нас!

Конь не вагаючыся ступіў на сцяжынку, якая, зрабіўшы некалькі паваротаў, вывела нас на брукаваную дарогу ў Даўгялы. Праз паўгадзіны мы ўжо стаялі перад замкавым ганкам.

На тупат нашых коней з акна між фіранак высунулася бялявая галоўка. Я пазнаў падступную перакладчыцу Міцкевіча.

— Заходзьце, калі ласка! — запрасіла яна.— Вы прыйшлі ў самы добры момант, пане Шэмет. Мне якраз прывезлі з Парыжа сукенку. Вы мяне не пазнаеце — такая я буду прыгожая.

Фіранкі зашморгнуліся. Паднімаючыся на ганак, граф прабурчаў:

— Вядома ж, не дзеля мяне яна справіла гэтую сукенку...

Ён адрэкамендаваў мяне пані Даўгяле, цётцы панны Івінскай, яна сустрэла мяне вельмі прыязна і згадала мае

самыя апошнія артыкулы ў *«Навукова-літаратурнай газеце»*.

— Пан прафесар прыйшоў, каб паскардзіцца вам на панну Юльку, якая непачціва з яго пажартавала.

— Гэта яшчэ дзіця, пане прафесар. Трэба ёй прабачыць. Яна часта дакучае мне сваімі выбрыкамі. Я ў шаснаццаць год была разумнейшая, чым яна ў дваццаць, але яна ўсё ж добрая дзяўчына і мае ўсе адзнакі добрага выхавання. Яна выдатны музыкант, яна цудоўна малюе кветкі, яна аднолькава добра гаворыць па-французску, па-нямецку і па-італьянску... Яна вышывае...

— І піша вершы па-жамойцку! — дадаў, смеючыся, граф.

— О, на гэта яна не здольная! — запярэчыла пані Даўгяла.

І прыйшлося ёй расказаць пра Юльчын жарт.

Пані Даўгяла была адукаваная і ведала старажытнасці краю. Гутарка з ёю мне вельмі спадабалася. Яна чытала нямецкія часопісы і мела здаровы погляд на мовазнаўства. Прызнаюся, што я не заўважыў, як праляцеў час, пакуль панна Івінская прыбіралася. Але для графа Шэмета час гэты цягнуўся надта доўга, і ён уставаў, зноў сядаў, глядзеў у акно і драбатаў пальцамі аб шыбіну, як чалавек, які траціць цярпенне.

Урэшце праз тры чвэрці гадзіны паявілася панна Юлька ў таварыстве сваёй французскай гувернанткі. Яна ішла павабна і напышліва ў сукенцы, апісанне якой вымагала б ведаў значна шырэйшых за мае.

— Ну, ці я не прыгожая? — спыталася яна ў графа, павольна паварочваючыся наўкола,— каб ён мог разгледзець яе з усіх бакоў.

Яна не глядзела ні на графа, ні на мяне, яна глядзела на сукенку.

— Ты што, Юлька,— сказала пані Даўгяла,— ты не вітаешся з панам прафесарам, які на цябе скардзіцца?

— А! Пане прафесар! — павярнула яна да мяне свой чароўны тварык.— І што ж я гэткага зрабіла? Вы мяне пакараеце?

— Мы б самі сябе пакаралі, панна, калі пазбавілі б сябе вашай прысутнасці. Я зусім не скарджуся, наадварот, я вельмі рады, што дзякуючы вам я адкрыў для сябе літоўскую музу ва ўсім яе чароўным бляску.

Яна схіліла галоўку і прыкрыла твар рукамі, уважаючы, аднак, каб не парушыць фрызуру.

— Прабачце мне, я болей не буду! — сказала яна, як дзіця, што цішком з'ела варэнне.

— Я прабачу вам толькі тады, мілая панна,— сказаў я,— калі вы выканаеце абяцанне, што вы мелі ласку мне даць у Вільні, у княгіні Катарыны Пац.

— Якое абяцанне? — яна падняла галоўку і ўсміхнулася.

— Вы ўжо забыліся? Вы мне паабяцалі, што, калі мы спаткаемся ў Жамойці, вы пакажаце мне адзін мясцовы танец, які вам вельмі падабаецца.

— А! «Русалку»! Я ў ёй проста непараўнальная. А вось якраз і той кавалер, што мне патрэбны.

Яна падбегла да століка з нотамі, паспешліва пагартала адзін сшытак, паставіла яго на пюпітр раяля і звярнулася да гувернанткі:

— Вось гэта, даражэнькая, *алегра прэста.*

І яна, не сядаючы, прайграла кавалачак сама, каб паказаць тэмп.

— Падыдзіце сюды, пане Міхал, вы занадта добры літвін, каб не ўмець танчыць «русалку»... але скачыце, як мужык, чуеце?

Пані Даўгяла паспрабавала адгаварыць, але марна. Мы з графам налягалі. Граф меў на гэта свае прычыны, бо яго роля ў танцы, як выявілася пасля, была даволі прыемная. Гувернантка пасля некалькіх спроб сказала, што паспрабуе зайграць гэты трошкі дзіўны вальс, і панна Юлька, адсунуўшы стол і пару крэслаў, што ёйміналі, узяла свайго кавалера за каўнер і вывела яго на сярэдзіну залы.

— Вось, пане прафесар, я — русалка.

І яна зрабіла рэверанс.

— Русалка — гэта вадзяная німфа. У кожным балоце, поўным чорнай вады, што ўпрыгожваюць нашы лясы, жыве русалка. Не падыходзьце да гэтых балот! Бо адтуль выйдзе русалка, яшчэ прыгажэйшая за мяне, калі гэта магчыма, яна зацягне вас на дно, а там, хутчэй за ўсё, з'есць...

— Сапраўдная сірэна! — усклікнуў я.

— А ён,— панна Івінская паказала на графа Шэмета,— малады рыбак, трошкі дурнаваты, трапляе ў мае кіпці, ■ я, каб расцягнуць асалоду, зачароўваю яго, танцуючы навокал... О! Гэтыя туфлі! У іх немагчыма танчыць «русалку»! Яшчэ і на абцасах!

Яна прыўзняла сукенку і, павабна трасянуўшы ножкай, адкінула туфлік у кут. Другі паляцеў следам за першым, і яна засталася на падлозе ў шаўковых панчохах.

— Усё гатова,— сказала яна гувернантцы.

Русалка круціцца вакол кавалера. Ён выцягвае рукі, каб яе схапіць, яна прыгінаецца і ўцякае. Усё вельмі прыгожа, музыка жывая і арыгінальная. Танец канчаецца тым, што кавалер спрабуе схапіць русалку, каб пацалаваць яе, але яна ўгінаецца, ляпае яго па плячы, і ён падае ля яе ног, як мёртвы... Але граф нечакана запрапанаваў іншы варыянт — моцна абхапіў яе і ўсё ж пацалаваў. Панна Івінская закрычала, густа пачырванела і, надзьмуўшыся, легла на канапу, скардзячыся, што ён сціснуў яе, не раўнуючы, як мядзведзь. Я заўважыў, што параўнанне графу не спадабалася, бо нагадала яму сямейнае няшчасце. Ён спахмурнеў. Што да мяне, я шчыра дзякаваў панне і расхвальваў яе танец, які, на маю думку, быў нават нейкага антычнага ладу, як рытуальныя танцы ў старажытных грэкаў. Мяне перапыніў чаляднік, які паведаміў, што прыехаў генерал Вельямінаў з жонкай. Панна Івінская падхапілася з канапы, знайшла свае туфлікі, паспешліва сунула ў іх свае ножкі. Выбегшы насустрач гасцям, яна зрабіла запар два глыбокія рэверансы. Я заўважыў, што ў кожным яна далікатна прыўзнімала абцас туфліка. З генералам былі два ад'ютанты, і, як і мы, яны прыехалі на вячэру. У любой іншай краіне гаспадыня дома, пэўна, мела б клопат, каб накарміць ужадобку шасцёх нечаканых госцяў. Але гэткая ўжо гасціннасць і дастатак літоўскіх дамоў, і вячэра затрымалася не болей чым на паўгадзіны. Толькі зашмат было пірагоў, гарачых і халодных.

## IV

За вячэрай мы не сумавалі. Генерал расказаў нам пра вельмі цікавыя асаблівасці моў каўказскіх народаў. Мовы гэтыя дзеляцца на дзве групы — *арыйскія* і *туранскія*, хоць паміж народамі абедзвюх груп існуе незвычайнае падабенства нораваў і традыцый. Мне таксама прыйшлося распавесці пра свае падарожжы. Граф Шэмет пахваліў мае вершніцкія здольнасці і сказаў, што не бачыў ніводнага святара ці прафесара, які б здолеў за адзін раз праехаць конна такі шлях, як мы сёння, і я мусіў расказаць, што, пасланы Біблейскім таварыствам даследаваць мову племені *чаруа*, я правёў тры з паловай гады ва Уругвайскай рэспубліцы. Там я не злазіў з каня і жыў у пампах сярод індзейцаў. І так я расказваў, пакуль не дайшоў да таго месца, калі

я, блукаючы тры дні па бясконцых стэпах, не маючы ні ежы, ні пітва, быў вымушаны ўзяць прыклад з *гаўчаў*, што былі разам са мной,— надрэзаць жылу каню і піць яго кроў.

Усе дамы закрычалі ад жаху. Генерал заўважыў, што калмыкі ў падобных пільных абставінах робяць тое самае. Граф пацікавіўся, ці спадабаўся мне гэты напой.

— З маральнага боку,— адказаў я,— гэта было агідна. Але фізічна я пачуў сябе значна лепей, і якраз дзякуючы гэтаму напою я маю шчасце сёння тут вячэраць. Шмат хто з еўрапейцаў, дый увогуле белых, хто доўга жыў з індзейцамі, прызвычайваюцца і нават прыахвочваюцца да гэтага. Мой вельмі добры сябар дон Фруктуоза Рывэра, прэзідэнт рэспублікі, заўсёды карыстаецца нагодай паласавацца. Я памятаю, як аднойчы, едучы ў парадным убранні на паседжанне кангрэса, ён мінаў *ранча*, дзе рэзалі курыцу. Ён спыніўся, саскочыў з каня і папрасіў адзін глыток крыві. А пасля ў кангрэсе ён сказаў адну са сваіх самых бліскучых прамоў.

— Ваш прэзідэнт — пачварны монстр! — закрычала панна Юлька.

— Прабачце мне, шаноўная панна,— сказаў я,— гэта вельмі прыстойны і разумны чалавек. Ён выдатна гаворыць на некалькіх індзейскіх мовах, вельмі цяжкіх з-за безлічы дзеяслоўных формаў, якія адрозніваюцца ў залежнасці ад віду дапаўнення і нават ад сацыяльных адносін паміж размоўцамі.

Я збіраўся расказаць пра даволі цікавыя падрабязнасці дзеяслова ў мове *чаруа*, але граф перабіў мяне і спытаўся, дзе ў каня трэба надрэзаць жылу, калі хочаш крыві.

— Барані вас Божа, дарагі прафесар,— закрычала панна Івінская са смешным спалохам на твары,— не кажыце яму. Ён такі, што перарэжа ўсю стайню, а калі скончацца коні, дык пачне есці нас саміх.

Пасмяяўшыся з гэтага досціпу, дамы пакінулі стол і пайшлі згатаваць гарбаты і кавы, пакуль мы пакурым. Праз чвэрць гадзіны генерала паклікалі ў залу. Мы ўсе хацелі пайсці за ім, але нам сказалі, што дамам пакуль хопіць аднаго мужчыны. Хутка мы пачулі з залы гучны посмех і воплескі.

— Панна Юлька зноў узялася за сваё,— сказаў граф.

Паклікалі яго самога. Зноў пачуўся смех, воплескі. Цяпер была мая чарга. Калі я ўвайшоў у залу, на тварах прысутных адбівалася сур'ёзнасць, што не вешчавала мне нічога добрага. Я чакаў нейкага жарту.

— Пане прафесар,— сказаў мне генерал самым сухім тонам,— гэтыя дамы лічаць, што мы занадта ўшанавалі іх шампан, і дазваляюць нам застацца з імі толькі пасля невялічкага выпрабавання. Трэба з завязанымі вачыма прайсці ад сярэдзіны залы да гэтай сцяны і дакрануцца да яе пальцам. Бачыце, усё вельмі проста, трэба толькі ісці наперад. Ці вы можаце прайсці дакладна па лініі?

— Спадзяюся, пане генерал.

І панна Івінская ўраз накінула мне на вочы хустку і што было моцы зацягнула яе вузлом на патыліцы.

— Вы стаіце пасярэдзіне залы,— сказала яна.— Выцягніце руку... Вось так! Магу біцца аб заклад, што вы не дакранецеся да сцяны.

— Наперад — крокам — руш!— скамандаваў генерал.

Да сцяны было пяць-шэсць крокаў. Я пасоўваўся павольна, упэўнены, што натыкнуся на якую вяроўку ці зэдлік, наўмысна падстаўленыя, каб я спатыкнуўся. Чуўся здушаны смех, маё замяшанне расло. Нарэшце, калі ўжо я спадзяваўся дакрануцца да сцяны, палец мой уткнуўся ў нешта халоднае і ліпкае. Я скрывіўся і адскочыў пад бурлівы рогат прысутных. Сарваўшы павязку, я ўбачыў побач са мною панну Івінскую, а ў яе руках — збанок з мёдам, куды ■ ўлез пальцам, думаючы, што дакрануўся да сцяны. Я суцешыўся, паглядзеўшы, як тое самае выпрабаванне прайшлі абодва ад'ютанты не лепш за мяне.

Рэшту вечара панна Івінская не пераставала даваць волю свайму гарэзліваму свавольству. Яна кпіла, блазнавала, лучала свае жарты то ў аднаго, то ў другога. Я заўважыў, аднак, што найчасцей яна звярталася да графа, які, мушу прызнацца, ніколі не крыўдзіўся і, здаецца, нават меў прыемнасць з гэтых назалянняў. І наадварот, калі яна нападала на каторага з ад'ютантаў, ён хмурыў брыво, і ў вачах у яго запаляўся страшнаваты цьмяны агеньчык. «Твар іх беларужовы, як смоль, чорныя бровы». Здаецца, пішучы гэты верш, Міцкевіч хацеў напісаць партрэт панны Івінскай.

## V

Разышліся даволі позна. У шмат якіх багатых літоўскіх дамах можна ўбачыць цудоўнае сталовае срэбра, прыгожую мэблю, каштоўныя персідскія кілімы, але там няма, як у нашай добрай Германіі, добрых мяккіх пасцеляў для стомленага госця. Багаты ці бедны, шляхціц ці мужык, славянін

здолее спаць і на дошках. У гэтым сэнсе замак у Даўгялах не быў выключэннем з агульнага правіла. У пакоі, куды нас з графам прывялі, былі толькі дзве канапы, абабітыя саф'янам. Гэта не надта мяне збянтэжыла, бо ў падарожжах мне часцяком даводзілася спаць на голай зямлі, і ў душы я кпіў з графавых нараканняў што да браку цывілізацыі сярод яго суайчыннікаў. Прыйшоў чаляднік, прынёс халаты і пантофлі і сцягнуў з нас боты. Граф, распрануўшыся, яшчэ нейкі час хадзіў па пакоі. Пасля спыніўся каля маёй канапы і запытаўся:

— Што вы думаеце пра Юльку?

— Яна проста чароўная.

— Так, але надта баламутная!.. Як вы думаеце, ёй сапраўды падабаецца гэты бялявы капітанчык?

— Ад'ютант?.. Ды адкуль жа ж я ведаю?

— Ён хлюст!.. значыць, падабаецца жанчынам.

— Я не згодны з вашай высновай, пане графе. Хочаце, скажу вам праўду? Панна Івінская куды больш хоча спадабацца графу Шэмету, чым ад'ютантам усёй арміі.

Ён пачырванеў і нічога не адказаў. Але мне здалося, што мае словы яго задаволілі. Ён яшчэ трошкі пахадзіў моўчкі, пасля паглядзеў на гадзіннік.

— Далібог,— сказаў ён,— трэба класціся спаць, бо ўжо позна.

Ён узяў сваю стрэльбу і паляўнічы нож, складзеныя ў нашым пакоі, паклаў іх у шафу і ўзяў ключ.

— Вазьміце, калі ласка,— ён перадаў мне ключ, што вельмі мяне здзівіла,— бо я магу забыцца. У вас, прынамсі, памяць лепшая за маю.

— Найлепшы сродак не забыцца пра зброю,— сказаў я,— гэта пакласці яе на стол каля вашай канапы.

— Не... Паслухайце, шчыра кажучы, я не люблю, каб побач была зброя, калі я сплю... І вось прычына. Калі я служыў у гарадзенскіх гусарах, аднае ночы я спаў у адным пакоі з адным таварышам. Мае пісталеты ляжалі побач са мной на крэсле. Уначы я прачнуўся ад выбуху. У руцэ я трымаў пісталет. Я стрэліў, і куля прайшла каля галавы майго таварыша... Я так ніколі і не ўзгадаў, што я тады прысніў.

Гэты расказ трошкі мяне занепакоіў. Я ўжо не рызыкаваў атрымаць кулю ў галаву. Але калі я ўявіў сабе высокі рост і геркулесаву паставу майго спадарожніка, ягоныя нервовыя рукі, парослыя чорнай шчэццю, я мімаволі падумаў, што ён без цяжкасці здолеў бы мяне задушыць, сасніўшы

штосьці нядобрае. Ва ўсялякім разе, я і знаку не падаў, што нечым занепакоены, а паставіў свечку на крэсла побач з канапай і ўзяўся чытаць *«Катэхізіс»* Лявіцкага, што быў захапіў з сабой. Граф узычыў мне добрай ночы, выцягнуўся на канапе, разоў пяць ці шэсць перакруціўся. Урэшце ён заснуў, згарнуўшыся клубком, як у Гарацыя каханак, які, схаваны ў куфры, галавой упіраўся ў сагнутыя калені:

........Turpi clausus in arca
Contractum genibus tangas caput...

Час ад часу ён глыбока ўздыхаў ці неяк нервова хрыпеў, відаць, ад нязручнай позы. Так прайшло недзе паўгадзіны. Я сам ужо засынаў. Я закрыў кнігу і ўладкоўваўся зручней у ложку, калі нейкі дзіўны смех майго суседа прымусіў мяне здрыгануцца. Я паглядзеў на графа. Вочы былі заплюшчаныя, усё цела дрыжала, а з прыадкрытых вуснаў чуліся ледзь зразумелыя словы:

— Свежая!.. белая!.. Прафесар не ведае, што кажа... Што там коні!.. Вось дзе смачны кавалак!..

Пасля ён пачаў ірваць зубамі падушку і раптам неяк страшна рыкнуў, так моцна, што сам прачнуўся.

Што да мяне, я нерухома ляжаў на канапе і ўдаваў, што сплю. А сам назіраў за ім. Ён сеў, прадраў вочы, сумна ўздыхнуў. Так ён праседзеў, не кранаючыся з месца, каля гадзіны, паглыблены, як здавалася, у нейкі роздум. А мне было не надта ўтульна, і я паабяцаў сабе ніколі болей не спаць побач з графам. Аднак урэшце стома перамагла трывогу, і калі раніцай па нас прыйшлі, мы абодва спалі глыбокім сном.

## VI

Паснедаўшы, мы вярнуліся ў Мядзінцілтас. Там, знайшоўшы доктара Фробэра, я сказаў яму сам-насам, што граф хворы, што яго мучаць страшныя сны, што ён, напэўна, лунацік і што ў такім стане ён можа быць вельмі небяспечны.

— Такое я і раней заўважаў,— сказаў доктар.— З такім атлетычным складам цела ён нервовы, як жанчына. Можа, гэта ў яго ад маці... Сёння раніцай яна паводзіла сябе вельмі кепска... Я не надта веру ў страхі цяжарных жанчын. Але адна рэч пэўная: графіня — маньячка і яе манія перадалася з крывёй...

— Але ж у графа розум у поўным парадку. Ён развaж-

лівы, адукаваны, нават значна болей, чым я думаў, ён любіць чытаць...

— Усё гэта так, шаноўны пане, але ён часта бывае дзіўны. Часам ён зачыняецца на некалькі дзён, ён часта гуляе начамі, ён чытае неверагодныя кнігі... нямецкую метафізіку... фізіялогію, ці што там яшчэ. Вунь учора з Лейпцыга цэлы стос даслалі... Але будзем гаварыць проста: Гераклу патрэбна Геба. Тут ёсць вельмі харошанькія сялянкі... У суботу вечарам пасля лазні яны проста як князёўны... Не адна з іх лічыла б за гонар дагадзіць графу. У ягоным веку, хай мяне д'ябал возьме!.. У яго няма каханкі, ён не жэніцца, гэта нядобра. Яму патрэбна нейкая аддуха.

Грубы матэрыялізм доктара ўразіў мяне надзвычайна, і я раптоўна абарваў размову, сказаўшы, што ўсёй душой жадаю графу Шэмету, каб ён знайшоў жонку, што была б яго вартая. Прызнацца, я здзівіўся, уведаўшы ад доктара пра графаву цікавасць да філасофіі. Каб гэты гусарскі афіцэр, заўзяты паляўнічы, чытаў нямецкіх метафізікаў і займаўся фізіялогіяй — гэта ставіла ўсе мае думкі дагары нагамі. І ўсё ж доктар сказаў праўду, і таго самага дня я ў гэтым пераканаўся.

— Пане прафесар,— сказаў раптам граф, калі ўжо канчалася вячэра,— як вы растлумачыце *падвоенасць* ці *раздвоенасць* нашай натуры?

І, заўважыўшы, што я не надта добра яго зразумеў, ён дадаў:

— Ці не даводзілася вам калі-небудзь глядзець з вяршыні вежы ці з краю прорвы і адчуваць жаданне кінуцца ўніз і адначасова адчуваць страх перад вышынёй?..

— Гэта можна растлумачыць звычайнымі матэрыяльнымі прычынамі,— адказаў доктар.— Па-першае, стомленасць, спрычыненая доўгім пад'ёмам ці ўзыходжаннем, выклікае прыток крыві да мозга, які...

— Да д'ябла ваш прыток крыві, доктар,— сказаў нецярпліва граф.— Возьмем іншы прыклад. У вашай руцэ зараджаная зброя. Побач — ваш найлепшы сябар. Вам прыходзіць думка пусціць яму кулю ў лоб. Вы страшна баіцеся забойства, і, аднак, вы пра яго думаеце. Я думаю, панове, што калі б усе думкі, якія прыходзяць нам у галаву за адну гадзіну... калі, скажам, усе *вашыя* думкі, пане прафесар,— а я лічу вас вельмі разважлівым,— запісаць на паперы, яны склалі б вялізны том, і не знойдзецца такога адваката, які б на падставе напісанага не запатрабаваў для вас пазбаўлення правоў, не знойдзецца такога суддзі, які б не пасадзіў вас у турму ці ў вар'ятню.

— Гэты суддзя, пане графе, напэўна, не асудзіў бы мяне за тое, што я сёння раніцай цэлую гадзіну спрабаваў выявіць таямнічы закон, згодна з якім славянскія дзеясловы, спалучаючыся з прыстаўкамі, набываюць значэнне будучага часу. Але калі б я выпадкам думаў пра штосьці іншае, дык які б довад тут быў супраць мяне? Ва ўзнікненні думак вінаваты не я, а вонкавыя ўзбуджальнікі. Калі ў маёй галаве ўзнікае нейкая думка, гэта яшчэ не значыць, што я зараз пачну дзейнічаць згодна з ёй ці ўвогуле буду мець такі намер. Ніколі ў мяне не было думкі некага забіць, але калі б такая думка і прыйшла да мяне, дык мой розум яе прагнаў бы.

— Добра вам казаць пра розум. Але ці заўсёды ён, як вы кажаце, кіруе намі? Каб розум прамаўляў і загадваў, патрэбна развага, гэта значыць час і спакойныя абставіны. А ці заўсёды мы маем і тое, і другое? Падчас бою я бачу, што ў мяне ляціць рыкашэтам ядро, я адхіляюся, і яно забівае майго сябра, за якога я, калі б меў час падумаць, аддаў бы сваё жыццё.

Я паспрабаваў гаварыць з ім пра нашы людскія і хрысціянскія абавязкі, пра неабходнасць наследаваць біблейскаму ваяўніку, заўсёды гатоваму да бою. Урэшце я давёў яму, што, змагаючыся заўсёдна са сваімі пачуццямі, мы набываем новыя сілы, каб аслабляць гэтыя пачуцці і панаваць над імі. Але баюся, што, хоць граф і замаўчаў, я так і не здолеў яго пераканаць.

Я заставаўся ў замку яшчэ дзён дзесяць. Я яшчэ раз гасцяваў у Даўгялах, але болей мы там не начавалі. Як і першага разу, панна Івінская свавольнічала і паводзіла сябе, як сапсаванае дзіця. Яна проста зачароўвала графа, і я не сумняваўся, што ён у яе закаханы. Аднак ён добра ведаў яе недахопы і не спрабаваў сябе падмануць. Ён ведаў, што яна баламутная, легкадумная, абыякавая да ўсяго, што не прыносіць ёй забавы. Часта я заўважаў, як ён пакутуе ў душы, бачачы яе легкадумнасць, але варта ёй было зачапіць яго нейкім лёгкім жартам, і ён пра ўсё забываўся, твар у яго прасвятляўся і прамяніўся радасцю. Напярэдадні майго ад'езду ён захацеў апошні раз з'ездзіць са мной у Даўгялы, можа, таму, што я займаў размовамі цётку, пакуль ён гуляў у садзе з пляменніцай. Але ў мяне было шмат працы, і я мусіў адмовіцца, нягледзячы на яго настойлівую просьбу. Ён вярнуўся перад вячэрай, хоць і папярэджваў, каб мы яго не чакалі. Ён сеў за стол, але не мог есці. Усю вячэру ён быў змрочны і пахмурны. Час ад ча-

су ён насупліваў бровы, і ў вачах загараліся жахлівыя агеньчыкі. Калі доктар выйшаў, каб наведаць графіню, граф прайшоў за мною ў мой пакой і выказаў усё, што гняло яго душу.

— Я вельмі шкадую,— сказаў ён усхвалявана,— што пакінуў вас дзеля гэтай дурнічкі, якая кпіць з мяне і любіць толькі новыя твары. Але, на шчасце, між намі ўсё скончана, мне ўсё гэта страшна абрыдла, больш я яе ніколі не ўбачу...

Нейкі час ён паводле сваёй звычкі хадзіў з кута ў кут, пасля загаварыў зноў:

— Вы, відаць, падумалі, што я ў яе закаханы? Так думае гэты ёлуп доктар. Не, я ніколі не кахаў яе. Мяне забаўляў яе вясёлы твар. Мне прыемна было глядзець на яе белую скуру... Больш у ёй нічога добрага няма... Скура — так. А вось розуму — ані кроплі. Я ніколі не бачыў у ёй нічога іншага, як толькі прыгожую ляльку, на якую прыемна глядзець, калі нудзішся або калі няма пад рукой новай кніжкі... Напэўна, можна сказаць, што яна прыгожая... Скура ў яе проста чароўная!.. Пане прафесар, кроў, што цячэ пад гэтай скурай, мусіць быць смачнейшая за конскую?.. Як вы думаеце?

І ён выбухнуў смехам, ад якога мне стала ніякавата.

Назаўтра я з ім развітаўся і паехаў на поўнач староства працягваць свае пошукі.

## VII

Пошукі мае цягнуліся два месяцы, і я магу сказаць, што ў Жамойцi не засталося вёсачкі, дзе б я не спыніўся і дзе б я не сабраў нейкі матэрыял. Скарыстаю нагоду і падзякую жыхарам гэтага краю, а асабліва шаноўным святарам, за іх шчырае спрыянне маім росшукам і за той багаты матэрыял, якім яны папоўнілі мой слоўнік.

Прабавіўшы тыдзень у Шаўлях, я вырашыў паехаць у Клайпеду (партовы горад, які мы завём Мемель), каб адтуль марскім шляхам вярнуцца дамоў, калі раптам я атрымаў ад графа Шэмета наступны ліст:

«Пане прафесар,

з вашага дазволу я буду пісаць па-нямецку, бо, пішучы па-жамойцку, я б нарабіў яшчэ болей памылак, і вы страцілі б да мяне ўсялякую павагу. Ці вы яе да мяне яшчэ

маеце, не ведаю, але навіна, што я вам зараз паведамлю, гэтай павагі, пэўна, не павялічыць. Карацей кажучы, я жанюся, і вы ведаеце з кім. *Юпітэр смяецца з клятваў каханкаў.* Піркунс, наш жамойцкі Юпітэр, робіць тое самае. Такім чынам, 8-га чысла наступнага месяца я бяру шлюб з паннай Юліяй Івінскай. Вы б зрабілі мне найбольшую ласку, калі прыехалі б на гэтую ўрачыстасць. Усе сяляне з Мядзінцілтаса і з усяго наваколля прыйдуць, каб пачаставацца ялавічынай і свінінай, а калі яны нап'юцца, яны будуць скакаць на лужку, што направа ад вядомых вам прысадаў. Вы ўбачыце строі і абрады, вартыя вашай увагі. Мы з Юлькай былі б вельмі радыя. Дадам таксама, што вашую адмову мы сустрэнем з глыбокай роспаччу. Вы ведаеце, што мы з маёй нявестай належым да евангеліцкага веравызнання. А наш пастар, які жыве за трыццаць міль адсюль, не можа хадзіць з-за падагры, і таму я дазволіў сабе спадзявацца, што вы нам адслужыце замест яго. Выказваю вам, пане прафесар, маю найглыбейшую пашану, ваш

*Міхал Шэмет».*

А ўнізе ў якасці *пастскрыптума* было дапісана па-жамойцку прыгожым жаночым почыркам:

«Я, літоўская муза, пішу па-жамойцку. Міхал мае непачцівасць сумнявацца ў вашай згодзе. Толькі такая дурніца, як я, згадзілася б выйсці за яго замуж. 8-га чысла наступнага месяца вы, пане прафесар, убачыце трохі *шыкоўную* маладую. Гэта ўжо не па-жамойцку, а па-французску. Але не надта заглядайцеся падчас цырымоніі!»

Мне не спадабаліся ні ліст, ні *пастскрыптум.* Я адзначыў, што абое праяўляюць недаравальную легкадумнасць у такі ўрачысты момант. І, аднак, як адмовіцца? Прызнаюся, што абяцанае відовішча спакушала мяне без меры. З усяго было відаць, што сярод безлічы прадстаўнікоў мясцовай шляхты, што збяруцца ў Мядзінцілтасе, я, без сумнення, сустрэну адукаваных людзей, якія паведамяць мне што-небудзь цікавае. Мой жамойцкі слоўнік быў ужо даволі багаты, але сэнс некаторых слоў, што я пачуў з вуснаў простых сялян, заставаўся для мяне ахутаны цьмянай няяснасцю. Усе гэтыя меркаванні, узятыя разам, мелі дастатковую вагу, каб змусіць мяне згадзіцца на графаву просьбу, і я адказаў яму, што 8-га раніцай я буду ў Мядзінцілтасе.

І як мне прыйшлося пасля пашкадаваць!

## VIII

Уехаўшы на замкавы двор, я ўбачыў незлічоную колькасць мужчын і жанчын, якія стаялі ў ранішніх убраннях на ганку або гулялі па паркавых сцежках. Двор быў поўны святочна прыбраных сялян. Замак меў урачысты выгляд, паўсюль кветкі, гірлянды, сцягі і фестоны. Аканом правёў мяне ў пакой, падрыхтаваны мне на першым паверсе, і перапрасіў, што не можа прапанаваць мне лепшы. Але ў замку было столькі народу, што было проста немагчыма пакінуць мне памяшканне, дзе я жыў падчас першага майго гасцявання. Цяпер яно прызначалася маршалку павятовай шляхты. Але мой новы пакой быў вельмі ўтульны, з відам на парк і якраз пад пакоем самога графа. Я паспешна апрануўся для цырымоніі, але ні граф, ні яго выбранніца не паяўляліся. Граф быў паехаў па яе ў Даўгялы. Яны ўжо даўно мусілі прыехаць, але туалет маладой панны быў не простай справай. Таму доктар паведаміў гасцям, што, зважаючы на тое, што абед пачнецца толькі пасля рэлігійнай цырымоніі, самыя няўцерпныя мусяць на ўсялякі выпадак трошкі падмацавацца. Былі прапанаваныя печывы і розныя наліўкі. Я ў сувязі з гэтым заўважыў, як доўгае чаканне спараджае зайздрослівую зласлоўнасць: дзве пані, маці запрошаных на свята маладых дзяўчат, сыпалі абгаворамі на маладую.

Ужо мінуў полудзень, калі залпы феерверку і ружжовыя стрэлы прывіталі вясельны поезд, і праз хвіліну на прысады выехала парадная брычка, якую везлі чатыры цудоўныя кані. Яны былі ў пене, і гэта сведчыла пра тое, што ў спазненні вінаватыя не яны. У брычцы сядзелі трое: маладая, пані Даўгяла і граф. Ён злез і падаў руку пані. Панна Івінская, поўная грацыі і дзіцячай гарэзнасці, прыкінулася, быццам хоча схавацца пад хусткай ад цікаўных позіркаў з усіх бакоў. Але ўрэшце яна ўстала ў брычцы і збіралася ўжо абаперціся на графаву руку, як раптам коні, відаць, напалоханыя дажджом з кветак, якія сяляне кідалі маладой, а можа, ахопленыя тым неўразумелым жахам, які ўзнікаў у коней пры графе, усталі дыбкі і заржалі. Адно кола наехала на слупок побач з ганкам, і на нейкі момант здалося, што зараз здарыцца няшчасце. Панна Івінская закрычала... Але хутка ўсе з палёгкай уздыхнулі. Граф падхапіў маладую і падняўся з ёй на ганак так лёгка, быццам нёс галубку. Мы ўсе віталі яго воплескамі на знак яго рыцарскай галантнасці. Сяляне грымнулі «віват!»,

а пачырванелая маладая смяялася і дрыжала адначасова. Граф, які зусім не спяшаўся вызваліцца ад прыемнага цяжару, пераможна ўсміхаўся, паказваючы яго ўсім прысутным...

І раптам нейкая высокая бледная худая жанчына, бязладна адзетая, з раскудлачанымі валасамі, здранцвелая ад жаху, паявілася на ганку так, што ніхто не ўбачыў, адкуль яна ўзялася.

— Мядзведзь! — пранізліва закрычала яна.— Мядзведзь! Гэй, страляйце... Ён нясе жанчыну! Забіце яго! Страляйце! Страляйце!

Гэта была графіня. З прыездам маладых усе сабраліся пры ганку, у двары і каля замкавых вокнаў. Чалядніцы, што наглядалі за няшчаснай вар'яткай, забыліся пра свае абавязкі. Яна ўцякла і, нікім не заўважаная, з'явілася сярод натоўпу. Гэта было пакутліва відовішча. Яе трэба было завесці назад, нягледзячы на яе крыкі і супраціўленне. Шмат хто з госцяў не ведаў пра яе хваробу. Прыйшлося ім тлумачыць. Яшчэ доўга чуўся ціхі шэпт. Усе твары спахмурнелі. «Благі знак!» — казалі прымхлівыя людзі, а такіх на Літве багата.

Панна Івінская папрасіла пяць хвілін, каб прывесці да ладу сваё ўбранне і надзець вэлюм.

Гэта заняло добрую гадзіну, больш чым дастаткова, каб тыя, хто не ведаў пра графініну хваробу, добра пазнаёміліся з яе прычынай і іншымі падрабязнасцямі.

Нарэшце паказалася маладая, пышна ўбраная і ўпрыгожаная дыяментамі. Цётка прадставіла яе ўсім гасцям, і калі настаў момант ісці ў капліцу, на маё вялікае здзіўленне перад усімі прысутнымі пані Даўгяла ўдарыла пляменніцу па шчацэ, прычым так моцна, што ўсе азірнуліся. Маладая маўкліва сцярпела ўдар, дый навокал ніхто не здзівіўся. Толькі нейкі мужчына ў чорным запісаў нешта на аркушы, а два ягоныя памочнікі з самым спакойным выглядам паставілі свой подпіс. І толькі пасля цырымоніі я ўведаў разгадку гэтай таямніцы. Калі б я ведаў раней, я б з усёй сілай маіх святарскіх паўнамоцтваў паўстаў супраць гэтага пачварнага абраду, які меў за мэту абгрунтаваць магчымы развод, бо шлюб быццам бы адбыўся ў выніку фізічнага гвалту над адным з бакоў.

Пасля вянчання я палічыў за абавязак сказаць маладым некалькі слоў і паспрабаваў паказаць ім важнасць і святасць саюзу, які іх злучыў. У мяне ўсё яшчэ не ішоў з галавы недарэчны *пастскрыптум* панны Івінскай, і я нагадаў

ёй, што яна пачынае новае жыццё, якое напоўнена не забавамі і дзявочымі радасцямі, а паважнымі абавязкамі і сур'ёзнымі выпрабаваннямі. Мне здалося, што гэтая частка маёй прамовы вельмі ўразіла маладую, як, зрэшты, і ўсіх, хто разумеў па-нямецку.

Залпы салюту і радасныя воклічы сустрэлі маладых, калі яны выйшлі з капліцы. Усе накіраваліся ў святочую залу. Стол быў вельмі багаты, госці былі галодныя, і спачатку чуўся толькі ляскат нажоў і відэльцаў аб талеркі. Але хутка, дзякуючы шампанскім і ўгорскім вінам, пачалася гамана, смех і крыкі. З запалам выпілі за здароўе маладой. І толькі селі зноў, як стары пан з белымі вусамі ўстаў і сказаў грымотным голасам:

— Балюча бачыць, як забываюцца нашыя старыя звычаі. Бацькі нашыя ніколі б не сталі піць за маладую з крышталёвых кубкаў. Мы пілі калісьці з нявесцінага туфліка ці нават з боціка, бо за мае часы кабеты насілі боты з чырвонага саф'яну. Дык пакажам, сябры, што ў нас яшчэ цячэ літоўская кроў. А ты, пані, будзь ласкава, дай твой туфлік.

Маладая пачырванела і адказала:

— Калі ласка, вазьмі... Але твайго бота мне будзе замнога.

Пан не прымусіў сябе ўпрошваць. Ён пачціва ўкленчыў, зняў маленькі туфлік з белага атласу і з чырвоным абцасам, наліў у яго шампану і выпіў так хутка і спрытна, што на яго сурдут вылілася не болей за палову. Туфлік пераходзіў з рук у рукі, і ўсе мужчыны выпілі з яго, хоць і не без клопату. Стары шляхціц папрасіў аддаць яму туфлік як каштоўную рэліквію, і пані Даўгяла загадала пакаёўцы прывесці да ладу туалет пляменніцы.

Пасля гэтага тоста было шмат іншых, і хутка госці зрабіліся такія гаманлівыя, што мне здалося недарэчным знаходзіцца сярод іх. Я ўцёк з-за стала так, што ніхто мяне не заўважыў, і выйшаў з замка, каб падыхаць свежым паветрам, але і там я ўбачыў не надта прыстойнае відовішча. Сяляне і чаляднікі, якія цішком напіліся піва і гарэлкі, былі ўжо збольшага п'яныя. Паўсюль цяпер кіпелі бойкі, паўсюль былі відаць разбітыя галовы. Сям-там на лузе валяліся непрытомныя п'яныя мужыкі, і збоку свята выглядала як пабоішча. Мне было б цікава паглядзець зблізу на народныя танцы, але танчылі збольшага бессаромныя цыганкі, і я падумаў, што мне не надта прыстойна бадзяцца сярод гэтай сумятні. І я вярнуўся ў свой пакой, трошкі пачытаў, пасля распрануўся і хутка заснуў.

Калі я прачнуўся, замкавы гадзіннік прабіў тры ўдары. Ноч была светлая, хоць месяц і быў ахінуты лёгкай смугой. Я паспрабаваў зноў заснуць, але не здолеў. Я хацеў, як я заўсёды раблю ў такіх выпадках, узяць кнігу, але не знайшоў пад рукой запалак. Я ўстаў і навобмацак пайшоў праз пакой, калі раптам нешта цёмнае, вялікае праляцела за акном і з глухім ударам упала ў садзе. Спачатку я падумаў, што гэта чалавек, відаць, нехта ўпіўся і выпаў з акна. Я адчыніў акно і паглядзеў: нічога не было відаць. Урэшце я запаліў свечку і пачаў перачытваць слоўнік, пакуль мне не прынеслі гарбату.

Каля адзінаццатай гадзіны я пайшоў у залу, дзе ўбачыў шмат падбітых вачэй і памятых твараў. Як я даведаўся, пачостка скончылася даволі позна. Ні граф, ні маладая графіня яшчэ не паяўляліся. А палове дванаццатай пасля безлічы злых жартаў пачаліся нараканні, спачатку ціха, а пасля і ўголас. Доктар Фробэр узяў на сябе смеласць паслаць графавага пакаёвага пагрукаць у дзверы свайго гаспадара. Праз чвэрць гадзіны пакаёвы, трошкі збянтэжаны, спусціўся і паведаміў доктару Фробэру, што грукаў разоў дванаццаць, але адказу не дачакаўся. Мы параіліся — пані Даўгяла, доктар і я. Трывога пакаёвага перакапала мяне. Мы ўтраіх падняліся разам з ім. Перад дзвярыма стаяла разгубленая графініна пакаёўка, яна цвердзіла, што здарылася нейкае няшчасце, бо акно ў пакоі ў пані было расчынена насцеж. І я з жахам згадаў тое важкае цела, што ўпала ўначы перад маім акном. Мы пагрукалі. Ніякага адказу. Тады, урэшце, пакаёвы прынёс жалезную бэльку, і мы зламалі дзверы... Не! Мне не стае мужнасці, каб апісаць відовішча, што адкрылася нашым вачам. Маладая графіня ляжала мёртвая ў ложку, твар быў разадраны, горла перарэзанае, паўсюль была кроў. Граф знік, і больш ніхто пра яго ніколі не чуў.

Доктар агледзеў страшную рану жанчыны.

— Яе не зарэзалі! — закрычаў ён.— Яе загрызлі!..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

* * *

Доктар загарнуў кнігу і задуменна паглядзеў на агонь.

— І гэта канец? — спыталася Адэлаіда.

— Канец! — змрочна адказаў прафесар.

— Але чаму вы назвалі апавяданне «Локіс»? Ніводзін з персанажаў так не завецца.

— Гэта не чалавечае імя,— адказаў прафесар.— Ану, Тэадор, ці разумееце вы, што значыць «Локіс»?

— Ані блізка.

— Калі б вы добра засвоілі закон фанетычных адпаведнасцяў паміж санскрытам і літоўскай мовай, вы пазналі б у слове «*lokis*» санскрыцкае «*arksa*» ці «*rksa*». «*Lokis*» — так па-літоўску называецца звер, якога грэкі называлі «αρκτοs», лаціняне «*ursus*», а немцы «*Bär*».

Цяпер вы разумееце сэнс эпіграфа:

Miszka su Lokiu
Abu du tokiu.

Вы ведаеце, што ў «Рамане аб лісе» мядзведзь завецца *damp Brun*. Славяне называюць яго Міхал, па-літоўску Мішка, і гэтая мянушка амаль заўсёды замяняе родавую назву «lokis». Гэтаксама, як французы забылі новалацінскае слова «*gorpil*» і замянілі яго словам «*renard*». Магу прывесці і іншыя прыклады...

Але Адэлаіда заўважыла, што ўжо позна, і яны расталіся.

ЛОКІС

Упершыню надрукавана ў «Revue des Deux Mondes» 15 верасня 1869 года. Увайшла ў зборнік «Апошнія навелы».

С. 311. *Вітэмбах.*— Як мяркуюць даследчыкі, пад гэтым імем у на-

веле паказаны вядомы нямецкі лінгвіст Аўгуст Шляйхер (1821—1868), аўтар граматыкі літоўскай мовы (1856) і яе слоўніка (1857). Ён выдаў таксама зборнік літоўскага фальклору (1857) і творы паэта К. Данелайціса (1865).

Эпіграф да рукапісу — прыдуманая самім Мерымэ літоўская прыказка.

*«Навукова-літаратурная газета».*— Такога выдання ніколі не існавала.

С. 315. *«Санкт-Пецярбургскі медыцынскі часопіс».*— Такога выдання ніколі не існавала.

С. 320. *Гумбальт*, Аляксандр Фрыдрых Вільгельм (1769—1859) — нямецкі натураліст і вандроўнік; у 1799—1804 гадах ён адбыў доўгае падарожжа па Паўднёвай Амерыцы.

С. 327. *Цырцэя* — чараўніца, што ператварыла спадарожнікаў Адысея ў свіней, даўшы ім выпіць зачараванага зелля.

*Кнаўс*, Людвіг — нямецкі мастак-жанрыст, з 1852 да 1860 года жыў і працаваў у Парыжы.

С. 331. *«Русалка».*— Гэты танец выдуманы Мерымэ.

С. 333. *Рывэра* — генерал, адзін з правадыроў барацьбы за незалежнасць Уругвая, першы прэзідэнт Уругвайскай рэспублікі (1830—1835).

С. 336. *...як у Гарацыя...*— Далей падаецца цытата з другой «Сатыры» Гарацыя (VII, 51—61).